# НАВІНЫ



**Акадэміі навук Беларусі**

*Заснавана ў кастрычніку 1979 года* ● *№ 15(744)* ● *22 красавіка 1994 г.* ● *Цана 25 руб.*


*БУТРАС ГАЛІ:*

## «Я ўзніму пытанне аб міжнародным банку навуковых распрацовак у Жэневе»

**7 красавіка ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя Генеральнага сакратара ААН Бутраса Бутраса Галі. На ёй прысутнічаў міністр замежных спраў П. Краўчанка і іншыя афіцыйныя асобы.**

**У сваім выступленні сп. Бутрас Галі сказаў, што з нагоды гадавіны чарнобыльскай трагедыі 26 красавіка ў Вене адбудзецца прадстаўнічая сустрэча, на якой будзе вырашаца пытанне аб большай увазе міжнароднай супольнасці да пераадолення вынікаў Чарнобыля.**

**Як паведаміў высокі госць, у зносінах з кіраўнікамі рэспублікі абмяркоўвалася пытанне аб магчымым удзеле Беларусі ў аперацыях па падтрымцы спакою, што праводзяцца ААН. Гаворка ішла аб удзеле чыста сімвалічным — аб сотні чалавек, ва ўсялякім выпадку ў межах тысячы. Але і яно важнае, бо чым шырэйшае кола краін, што ўдзельнічаюць у акцыях, тым меншая рызыка выкарыстання іх у інтарэсах нейкай адной дзяржавы.**

**У кароткім слове ў адказ П. Краўчанка ацаніў візіт Бутраса Галі як вельмі карысны. На працягу 3,5 гадзін, сказаў ён, было абмеркавана 7 праблем, галоўная з якіх, канешне ж, Чарнобыль. Па сутнасці, Генеральны сакратар таму і прыехаў у Беларусь, каб на месцы азнаёміцца з чарнобыльскай сітуацыяй. І яму была дадзена вычэрпная інфармацыя.**

**26 красавіка ААН будзе шырока абмяркоўваць вынікі аварыі на ЧАЭС. Мяркуецца выпусціць памятныя медалі — для ўзнагароды донараў, ліквідатараў.**

**У Мінску хутка пачне работу Вярхоўны камісар ААН. Спадзяемся, што з яго ўдзелам лягчэй пойдзе супрацоўніцтва ў галіне энергетыкі, эканомікі, стандартызацыі.**

**Потым на працягу 10 хвілін Генеральны сакратар ААН адказваў на пытанні беларускіх і замежных журналістаў. Пытанне, зададзенае яму нашым карэспандэнтам, было ў значнай меры ініцыіравана размовамі з доктарам філалагічных навук В. Мартынавым і кандыдатам фізіка-матэматычных навук М. Паляковым; у ім прысутнічае зацікаўленасць людзей навукі: «У сітуацыі, калі навука ў Беларусі і іншых рэспубліках былога Саюза разбурана, ці будзе вельмі патрэбны Міжнародны банк навуковых распрацовак і попыту на іх».**

***МАЕ ПЫТАННЕ:* «Як вы глядзіце на тое, каб арганізаваць падобную структуру пры падтрымцы ААН?»**

**Прыводжу адказ Генеральнага сакратара ў поўным выкладанні, паколькі тут і падрабязнасці могуць мець значэнне.**

**— Мы, канешне ж, выступаем за стварэнне любога інстытута, які будзе спрыяць абмену інфармацыяй паміж вучонымі і іншымі работнікамі, што працуюць у розных краінах свету, бо гэта дапаможа нам знайсці вырашэнне глабальных праблем, якія стаяць перад чалавецтвам. І глабальныя праблемы будуць вырашаны з дапамогай палітычных рашэнняў, якія грунтуюцца, канешне ж, на навуковых распрацоўках.**

**Так, мы за стварэнне падобнай установы. Складанасць у тым, што ААН зараз знаходзіцца ў сапраўдным фінансавым крызісе, і ёй цяжка зараз нешта ствараць — нейкія ўстановы ці інфармацыйныя банкі,— калі мы не пераадолеем свае фінансавыя праблемы.**

**А пакуль што...**

**На наступным тыдні ў нас у Жэневе адбудзецца сустрэча з генеральнымі дырэктарамі розных агенцтваў. Там будзе і дырэктар ЮНЕСКА. У нас з ім намечана размова, і я ўзніму пытанне аб стварэнні Міжнароднага банка навуковых распрацовак і заказаў на іх. І паспрабую высветліць, ці здолее ЮНЕСКА дапамагчы ў стварэнні такога банка, такога тыпу ўстановы.**

**Што ж, будзем чакаць навін з Жэневы.**

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

*ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?*

## РАСІЙСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК ВЫБІРАЕ РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА СВАІМ ЗАМЕЖНЫМ ЧЛЕНАМ

*Мінск. Віцэ-прэзідэнту АН Беларусі, акадэміку Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму*

Паважаны прафесар Гарэцкі! Рады паведаміць Вам, што Агульны сход Расійскай Акадэміі навук, адзначаючы Вашы навуковыя заслугі, 31 сакавіка 1994 года абраў Вас замежным членам Расійскай Акадэміі навук. Сардэчна віншуем Вас і жадаем далейшых поспехаў у Вашай навуковай дзейнасці. Дазвольце выказаць упэўненасць, што абранне Вас замежным членам РАН паслужыць далейшаму ўмацаванню сувязей паміж расійскімі вучонымі і вучонымі Беларусі.

Прэзідэнт РАН акадэмік Ю. С. ОСІПАЎ.
Галоўны вучоны сакратар РАН акадэмік І. М. МАКАРАЎ.

***— Радзім Гаўрылавіч, дазвольце ад імя ўсіх супрацоўнікаў АНБ павіншаваць вас з абраннем замежным членам РАН!***

**— Вялікі дзякуй.**

***— Скажыце, калі ласка, асабіста для вас прысваенне вам такога высокага звання стала нечаканым?***

**— Зусім нечаканым не стала. Памятаецца, яшчэ ў 1987 годзе наш інстытут вылучыў мяне кандыдатам у праўдзейныя члены АН СССР. Але тады пры галасаванні я не дабраў двух галасоў.**

**А зараз мае маскоўскія калегі вылучылі мяне кандыдатам у замежныя члены РАН. Немалую ролю ў гэтым адыграў і той факт, што каля 20 гадоў я працаваў у Маскве, і мяне там добра ведаюць як геолага.**

***— Раскажыце, калі вам вядома, як праходзіў сам працэс вашага абрання ў замежныя члены РАН?***

**— Я на ім не прысутнічаў, але са слоў маіх маскоўскіх калег ведаю, што спачатку мяне выбіралі на сходзе Аддзялення геалогіі, геафізікі, геахіміі і горных навук. Шляхам патаемнага галасавання я быў вылучаны кандыдатам у замежныя члены акадэміі. А ўжо на Агульным сходзе РАН, які адбыўся 31 сакавіка, аднагалосна мяне абралі замежным членам. Вось так усё і адбылося.**

***— Быць замежным членам РАН, канешне, ганарова. А што акрамя гонару дае вам, рабоце, якой вы займаецеся, гэтае званне?***

**— Цесныя сувязі, якія існавалі раней паміж навуковымі ўстановамі Беларусі і Расіі, у апошні час значна пагоршыліся. Гэта тычыцца і сумесных работ, і абмена вопытам, навуковай літаратурай і г. д. Хочацца спадзявацца, што, як замежны член Расійскай Акадэміі навук, я паспрыяю аднаўленню старых сувязей і наладжванню новых...**

***З новым замежным членам РАН гутарыў Алесь ЮРЫН.***

## 30 навуковых дакладаў

*па найбольш актуальных праблемах генетычнай інжынерыі і біятэхналогіі было заслухана на II канферэнцыі, якая нядаўна прайшла ў Мінску і была прысвечана гэтай тэматыцы.*

**У канферэнцыі прымалі ўдзел больш як 90 навукоўцаў з дзевяці навуковых устаноў АНБ, устаноў Міністэрства аховы здароўя рэспублікі і Акадэміі аграрных навук. Былі таксама прадстаўнікі Інстытута малекулярнай генетыкі Расійскай АН, Пушчынскага філіяла Інстытута біяарганічнай хіміі РАН.**

**Адбылося грунтоўнае абмеркаванне навуковых паведамленняў, перспектыў біятэхналагічных даследаванняў у Беларусі. Разглядаліся шляхі паглыблення навуковых пошукаў і рэалізацыі вынікаў даследаванняў у вытворчасці, умацавання кантактаў і навуковага супрацоўніцтва.**

**Прадстаўленыя на канферэнцыі матэрыялы паказалі, што беларускімі навукоўцамі атрыманы арыгінальныя вынікі па карціраванню генаў сельгасраслін, стварэнню вектарных сістэм, трансгенезу і малекулярна-генетычнаму аналізу трансгенных раслін. Гэтыя даследаванні праведзены ў інстытутах генетыкі і цыталогіі, эксперыментальнай батанікі, фотабіялогіі Беларускай Акадэміі, а таксама Інстытутам малекулярнай генетыкі Расійскай Акадэміі і некаторымі іншымі. У Інстытуце фотабіялогіі АНБ распрацаваны і прыменены метады генетычнай інжынерыі для вывучэння функцыяніравання фітахрома і хлорапластных генаў, якія кадзіруюць поліпептыды фотасістэм. Беларускімі даследчыкамі знойдзены спосабы выкарыстання ферментаў мікраарганізмаў, якія ў канчатковым выніку садзейнічаюць ахове раслін.**

**Канферэнцыя была арганізавана ўстановамі Аддзялення біялагічных навук АНБ, Навуковым саветам па праблемах біятэхналогіі пры аддзяленні, Беларускім таварыствам генетыкаў і селекцыянераў.**

**III канферэнцыю па названай праблематыцы намечана склікаць у 1996 годзе.**

**Уласн. інф.**

Фадзей Ігнатавіч Савіцкі вось ужо 30 гадоў узначальвае адну з найважнейшых службаў Акадэміі навук Беларусі — выдавецтва «Навука і тэхніка», спачатку ў якасці галоўнага рэдактара, а з 1968 года — дырэктара.

Выдавецкая ніва нялёгкая. Гэта поле, дзе плён тых, хто на ім робіць, бачны кожнаму і найбольш уразлівы для крытыкі. Умелы арганізатар, спецыяліст высокай кваліфікацыі, Ф. І. Савіцкі здолеў наладзіць паспяховую работу выдавецкага калектыву. І тут будзе дарэчы дадаць, што галоўнай рухаючай сілай яго прафесійнай дзейнасці сталася ўвасобленая ім у практыку ідэя ўкаранення ў будзённасць роднай мовы, адраджэння нацыянальнай культуры.

Таму гэтак шчыра, з адкрытай душой узяўся ён за ажыццяўленне Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы ў нашым краі. Праз прызму выдавецкай работы гэта значыць — выпускаць як мага больш беларускамоўнай літаратуры. І сапраўды, з году ў год яе выданне расце, і тут кнігі не толькі па гуманітарных, а і па дакладных, прыродазнаўчых навуках. Дастаткова сказаць, што ў 1990 годзе выйшлі ў свет 34 назвы беларускіх кніг, у 1992 — 37. Летась жа — 79, гэта, прыблізна, 60 працэнтаў выданняў.

Пад кіраўніцтвам (хай прабачыць чытач за гэтае словаспалучэнне, але тут яно да месца) Фадзея Савіцкага выдавецтва выпусціла зборы твораў Янкі Купалы ў 7 тамах, Міхася Лынькова — у 8, Максіма Багдановіча — у 2. Цяпер упершыню ў гісторыі беларускай культуры выходзіць трохтомнік гэтага выдатнага паэта.

І, нарэшце, справа асаблівага гонару ўсяго калектыву — выхад першага з шасці плануемых выпускаў факсімільнага выдання газеты «Наша ніва» натуральным фарматам, тым, якім яна выходзіла ў 1906-15 гадах пры Янку Купале.

За працоўныя здабыткі Фадзей Ігнатавіч быў удастоены высокіх дзяржаўных узнагарод. Віншуем яго з прысваеннем высокага звання «Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь»!

## УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ ПРЫСВАЕННІ САВІЦКАМУ Ф. І. ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ «ЗАСЛУЖАНЫ РАБОТНІК КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»

**За значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры, шматгадовую плённую работу у друку прысвоіць дырэктару выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі САВІЦКАМУ Фадзею Ігнатавічу ганаровае званне «Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь».**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. ГРЫБ.**

**1 красавіка 1994 г. г. Мінск № 2925-XII**

# Ці будзе ў Беларусі з энергіяй «без праблем»?

Чарговае сакавіцкае пасяджэнне прэзідыума АНБ пачалося з запаненнем: у вялікай канферэнц-зале быў праведзены спецыяльны агульны сход, прысвечаны выбарам генеральнага сакратара ААН, прафесара міжнароднага права Бутраса Бутраса Галі замежным членам Акадэміі навук Беларусі. Акадэмікі былі амаль што аднадушныя — з 45 галасаваўшых 43 былі «за».

Абмеркаванне канцэпцыі развіцця атамнай энергетыкі рэспублікі было галоўным пытаннем пасяджэння. З гэтай прычыны прэзідыум ужо збіраўся два разы раней. Таму прэзідэнт АНБ акадэмік Л. М. Сушчэня адразу ж даў слова апанентам канцэпцыі.

Асабліва многа недахопаў выявіў у прапанаваных матэрыялах, прадстаўленых групай распрацоўшчыкаў пад кіраўніцтвам акадэміка А. Р. Мартыненкі, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута радыяцыйных фізіка-хімічных праблем М. В. Манько. Вось сутнасць яго асноўных заўваг.

Канцэпцыя разлічана на «саўдэпаўскую» эканоміку з яе затратным механізмам. У ФРГ на душу насельніцтва энергіі прыпадае амаль столькі ж, колькі ў нас, але ім хапае, а ў нас — дэфіцыт. Не вырашана таксама пытанне аб радыёактыўных адходах. Нерэальныя тэрміны будаўніцтва АЭС у 5—7 гадоў. У Бразіліі, Аргенціне, Індыі 10—15 год назад пачалі іх будаваць, і дагэтуль будуюць. Да таго ж атамная энергетыка — дарагая прыемнасць. Зараз мы АЭС не пацягнем.

Выступленне акадэміка А. В. Мацвеева было таксама даволі крытычным. Ён адзначыў, што канцэпцыя не адказвае на пытанне: як пераадолець негатыўныя адносіны насельніцтва да АЭС? Канцэпцыя не ўвязана з магчымай структурнай перабудовай прамысловасці. Няма даных аб альтэрнатыўных крыніцах энергіі, аб энергетычным балансе рэспублікі, адсутнічае раздзел аб затратах на дэмантаж АЭС пасля выпрацоўкі рэсурсу, занадта схематычна разгледжана пытанне аб захаванні адходаў. Не аналізуецца таксама магчымасць падземнага размяшчэння АЭС, нерэальны тэрмін — за 1 год правесці тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне (таму хаця б, што па нарматывах сейсмічныя назіранні патрабуюць мінімум 1,5 года). Не абмяркоўваецца пытанне аб забеспячэнні АЭС ядзерным палівам. Украіна з ім, дарэчы, ужо мае праблемы.

А. В. Мацвееў прыйшоў да высновы: калі ў канцэпцыі не будзе таго, што прапануецца, то прымаць яе нельга.

Пасля выступлення акадэміка А. Р. Мартыненкі, які адказаў на зробленыя заўвагі, абмеркаванне працягвалася. У ім прынялі ўдзел акадэмікі П. П. Яшчарыцын, Р. Г. Гарэцкі, міністр энергетыкі В. В. Герасімаў (дарэчы, адзін з саўтараў канцэпцыі), акадэмік С. А. Астапчык, члены-карэспандэнты АНБ В. Б. Несцярэнка і А. А. Міхалевіч.

Улічваючы вастрыню паліўна-сыравінна-энергетычных праблем і рэальны ўдзел у іх вырашэнні міністра энергетыкі, дадзім выступленне В. В. Герасімава ў больш падрабязным выкладанні.

Сёння мы спажываем за суткі 31 млн. кубаметраў газу, 10 тысяч тон мазуту і да таго ж атрымліваем 12 млн. кілават-гадзін электраэнергіі з-за межаў рэспублікі. Пры тэтым агульны доўг энергетыкаў складае 1 трыльён 360 мільярдаў рублёў па газу і 100 мільярдаў руб.— па мазуту. У чым справа? Зусім не ў «няправільным» курсе «зайца» ці «не той» фінансавай палітыцы Багданкевіча. Справа ў тым, што сталі значна больш плаціць за энергарэсурсы: за 1000 кубаметраў газу Расія будзе з нас браць 50 долараў пры цане тоны мазуту ў 64 долары. Чакаецца хуткі пераход да цэн 80 долараў і 90—100 долараў за тыя ж колькасці газу і мазуту. І доўг будзе ўзрастаць.

Меркаванне пазбегнуць гэтых затрат за кошт атамнай энергетыкі зусім натуральнае. Разглядаючы вынікі замяшчэння арганічнага паліва ядзерным, мы атрымалі эфект у 200 млн. долараў у год.

У суседняй Літве ёсць Ігналінская АЭС. Яна поўнасцю пакрывае энергетычныя патрэбнасці рэспублікі. У свой час мы дазволілі палітыкам навязаць сваю думку. Калі б не гэта, Ігналінская АЭС была б на нашай тэрыторыі, і, магчыма, не Літва нам, а мы ёй прапаноўвалі б зараз лішкі электраэнергіі. Цяпер жа мы можам канстатаваць палітычны пройгрыш: Ігналінская, Смаленская, Чарнобыльская АЭС паблізу з нашай мяжой, а на тэрыторыі Беларусі АЭС няма.

Затраты на АЭС значныя, бясспрэчна. Але што нязначна?

Тут выказвалася думка, што з дапамогай пара-газавых установак мы здолеем выйсці з крызісу. Мы іх не адкідваем. Але зараз у свеце пачынаецца газавая пауза. Запасы Заходне-Сібірскай нізіны вычэрпваюцца. Прыйдзецца здабываць з кантынентальнага шэльфу Баранцава мора, з Ямала. Газ будзе дарагі.

Аб вугальным варыянце. Сілезскі вугаль, канешне, добры і ад нас непадалёку, але ЦЭЦ на ім працаваць не прыйдзецца — дорага. Да таго ж улічыце складанасці з больш шырокай нашай каляёй у параўнанні з заходнееўрапейскай. А яшчэ ж інвестыцыі, якія і Польшча, і Украіна захочуць ад нас мець пад здабычу вугалю для нас. Каб жыткавіцкія вугалі былі не з такой вялікай зольнасцю, праблем не было б. А таму нам зараз без атамнай энергетыкі абысціся проста немагчыма.

Пытанне аб тэрмінах таксама вырашальнае. За адзін сезон геалагічную падрыхтоўку і за год тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне, сапраўды, не правядзеш, але за два — можна. Праблема адходаў, мне здаецца, у навуковым плане ўжо вырашана. Ёсць канцэпцыя захавання, разлічаная на мільён гадоў. І таму нельга сказаць: «Беларускай канцэпцыі развіцця атамнай энергетыкі — не, таму што не вырашана праблема захавання радыёактыўных адходаў». А вось пераадоленне чарнобыльскага сіндрому, асветніцкая работа ў СМІ, а таксама з насельніцтвам тых мясцін, якія будуць прапанаваны як магчымыя для будовы АЭС — тут праблема застаецца. У гэтым напрамку трэба будзе многа папрацаваць. У выніку павінна быць, што розныя раёны Беларусі спрачаюцца за тое, каб АЭС будавалася менавіта на іх тэрыторыі.

У заключэнне міністр сказаў: «Мы запазніліся з атамнай энергетыкай. Мы спрабуем нагнаць упушчанае з-за няслушных палітычных рашэнняў. Патрэбны грунтоўныя навуковыя даследаванні, работа з насельніцтвам. Я прасіў бы прэзідыум, усіх прысутных адобрыць канцэпцыю развіцця атамнай энергетыкі ў Беларусі і даць тым самым прыцягваць гэтую работу».

Акадэмік Л. М. Сушчэня падвёў вынікі дыскусіі. Ён прапанаваў аўтарам канцэпцыі і апанентам папрацаваць у кантакце, каб у бліжэйшы час прадставіць ва ўрад узгоднены і адпрацаваны яе варыянт.

Уладзімір МІКАЛАЕЎ.

ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА

# КАЛІ ПРЫЙШЛА ВАЙНЫ НАВАЛА

*(ПА МАТЭРЫЯЛАХ МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ АН БЕЛАРУСІ)*

Вялікае бачыцца на адлегласці. Сапраўды прарочыя словы.

Толькі праз гады нейкая нязначная, драбязная паперка, якую чалавек, не задумваючыся, кідае ў сметнік, набывае вельмі нярэдка каштоўнасць гістарычнага дакумента, робіцца сапраўднай рэліквіяй.

На шматку ледзь не прамакатні напісалі старшы лейтэнант П. Янкоўскі і лейтэнант М. Фуніцкаў алоўкам: «Гэтыя кнігі мы адбілі ў немцаў і адпраўляем на Радзіму. 25/III.45 г. Германія за Одэрам».

49 гадоў захоўваецца гэтая гістарычная запіска. І сама за сябе гаворыць, тлумачыць, чаму яе захоўваюць. Галоўным чынам таму, што кошт кніг вымяраўся тады не на грошы, нават такія шалёныя, як сёння. Наадварот, цана тагачасных кніг, пазначаная на вокладцы, была мізэрнай. Затое рэальна плацілі за іх крывёю, пра што гаворыць змест запіскі.

Мы не ведаем, які лёс напаткаў абодвух афіцэраў, паслаўшых няхітрую запіску на адрас Акадэміі навук БССР. Затое мы ўдзячны ім за кнігі, чый лёс склаўся пасля вайны ўдала.

Названае пасланне, зрэшты, было не адзінай весткай пра нашу літаратурную скарбніцу, адбітую ў ворага. Адначасова або з нейкім інтэрвалам прыйшлі ў Мінск ліст капітана Д. Р. Новікава і тэлеграма тагачаснага дэпутата Вярхоўнага Савета БССР генерал-маёра Дуброўскага. У тэлеграме на адрас старшыні Саўнаркама Беларусі П. К. Панамарэнкі значылася: «Паблізу г. Штадтград замак Панзін намі ўзята бібліятэка АН БССР — 28 скрынь, адзін вагон. Прыміце рашэнне адпраўцы, паведаміце. Атрыманне пацвердзьце».

І вось прэзідэнт АН БССР К. В. Гораў дае тэлеграму ў адказ на імя маршала Жукава. У ёй паведамляецца, што, паводле пісьма капітана Новікава, у адным з замкаў барона фон Пунткамера, размешчаным у 12 кіламетрах ад Штадтгарда, фальварак Панзін, сярод нарабаваных фашыстамі каштоўнасцей — кнігі з бібліятэкі АН БССР. Акадэмік просіць аказаць садзеянне ў адпраўцы каштоўнасцей у Мінск.

Уся гэтая маленькая эпапея, — адзін з невялікіх эпізодаў Вялікай Айчыннай,— зафіксаваная ў паведанай перапісцы, захоўваецца цяпер пад шклом на адным са стэндаў музея Акадэміі навук. Тут мы можам убачыць на фота і Новікава, ужо ў званні маёра,— аднаго з ратавальнікаў акадэмічных каштоўнасцей.

Вядома, гэты падарунак нашых вайскоўцаў — толькі невялікая частка кніжнага багацця акадэміі. Яе бібліятэка валодала выдатным фондам. Захопнікі разрабавалі найкаштоўнейшыя зборы літаратуры па гісторыі Беларусі, мовазнаўству, фальклору, мастацтву і г. д. У бібліятэцы АН БССР захоўваліся прыватныя кніжныя калекцыі В. С. Дактуроўскага, М. П. Доўнар-Запольскага, Б. І. Эпімаха-Шыпілы, Я. П. Громера, кніжны фонд з нясвіжскага маёнтку князёў Радзівілаў. Урон, нанесены акадэмічнай бібліятэцы, ацэньваецца ў 4 мільёны 876,5 тысячы рублёў (у даваенных цэнах).

Раздзел музея, прысвечаны легендарнаму часу змагання з фашысцкай чумой на тэрыторыі Беларусі, вядома ж, не мае на мэце глабальнага паказу шырока разгорнутага ў рэспубліцы магутнага супраціўлення захопнікам. У яго больш вузкая задача: удзел у гэтым супраціўленні работнікаў акадэміі. І ўвогуле гэтая частка экспазіцыі ўражвае. Бо нават у прадстаўленых экспанатах выразна ўяўляецца агульны размах барацьбы беларускага народа супраць фашысцкага нашэсця, хаця экспазіцыя і не без выдаткаў.

Але перш яшчэ пра колькі запамінальных стэндаў, якія можна назваць ваеннай гісторыяй акадэміі ў асобах. Фотапартрэты адлюстравалі твары навукоўцаў, маладых і не вельмі, людзей па прыродзе мірных, аднак узяўшых у рукі зброю, каб абараніць сваё права на ўласцівы ім спосаб жыцця, на працу, што накіравана на стварэнне, абараніць маленства сваіх дзяцей і надзеі на шчасце жонак.

Зрэшты, і самі жанчыны, нароўні з сваімі мужамі, братамі, бацькамі, станавіліся ў першыя рады абаронцаў Бацькаўшчыны. Нездарма адзін са стэндаў адкрываецца фатаграфіяй жанчыны, удзельніцы мінскага падполля А. А. Язубчык. Кандыдат біялагічных навук, даваенны кіраўнік акадэмічнага Інстытута біялогіі, яна падчас акупацыі засталася — быццам бы рабіць — тут жа, у будынку акадэміі. Сама ж рэгулярна насіла адсюль хімікаты, якімі падпольшчыкі псавалі сыравіну, прадукты, прызначаныя для патрэб гітлераўскай арміі.

Яе пераправілі ў партызанскі лес, калі над ёй згусцілася небяспека. Па заданню штаба злучэння партызанскіх атрадаў Слуцкай зоны яна не раз прабіралася ў Мінск і з неабходнымі звесткамі пра ваенныя аб'екты праціўніка, колькасць і дыслакацыю ягоных гарнізонаў, перамяшчэнне фашысцкіх войск вярталася назад. Увосень 1943 года А. Язубчык на самалёце вывезлі ў Маскву, дзе яна зноў занялася навуковай работай у АН БССР, эвакуіраванай сюды. Падпольшчыца і партызанка адзначана ордэнам Айчыннай вайны І ступені і іншымі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

І яшчэ адна рыса з характарыстыкі нашых бясстрашных жанчын. З фотакарткі глядзіць на нас жыццярадасны твар маладой жанчыны (здымак, відавочна, неваенны пары). Гэта Н. І. Чакалінская. Тое, чаму яе фота ў музеі, тлумачыць «аб'ектыўка», прысланая ў Інстытут біялогіі, куды яна паступала ў аспірантуру ў 1949 годзе: «Сувязь Чакалінскай Н. І. у 42-43 г. з атрадам Маскоўскай спецгрупы, якая выказалася ў перадачы зводак Саўінфармбюро, распаўсюджванні лістовак, а таксама перадачы праз сувязных Кавальеравых аўтамата, пацвярджаю. Нам. начальніка ўпраўлення МУС па Калінінградскай вобласці падпалкоўнік Казанцаў».

Р. ЛЕВІН.

*(Заканчэнне будзе).*

ГЭТА ЦІКАВА

## *ХІМІЧНАЯ ЗБРОЯ ЖЫВЁЛІН МАРСКОГА ДНА*

Марскія губкі і іншыя нерухомыя жывёліны марскога дна не могуць ратавацца ўцёкамі ад нападаючых драпежнікаў і карыстаюцца ўласцівымі ім сродкамі абароны, у прыватнасці, трывалымі ракавінамі, шыпамі.

Між тым ёсць і такія марскія істоты, што абараняюцца ад марскіх зорак і іншых драпежнікаў... хімічнай зброяй. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў гідрабіёлагі вывучалі гэтую хімічную зброю ў перанаселеных экасістэмах, у тропіках, а некаторыя даследчыкі звярнулі ўвагу на вывучэнне больш бедных экасістэм у водах Антарктыкі.

Акіянографы мяркуюць, што нерухомыя жывёліны ў палярных рэгіёнах у меншай ступені маюць патрэбу ў хімічнай зброі, чым аналагічныя віды ў трапічных экасістэмах, бо ў высокіх шыротах менш драпежнікаў. Аднак даследаванні, праведзеныя ў апошнія гады Джэймсам Макклінтакам (Алабамскі універсітэт), паказалі, што, нягледзячы на адносную малую колькасць экасістэм у палярных водах, нерухомыя антарктычныя жывёліны карыстаюцца хімічнай зброяй гэтак жа часта, як і аналагічныя ім трапічныя віды.

Макклінтак і Уільям Бэйкер (Фларыдскі тэхналагічны інстытут) праводзяць сумесныя даследаванні з мэтай ідэнтыфікацыі хімічных рэчываў, якія скарыстоўваюць названыя марскія істоты ў якасці зброі ад нападу. У шэрагу выпадкаў гэтая зброя смяротна паражае нападаючых, у астатніх выпадках толькі адпуджвае іх. Акрамя таго, хімічная абарона папярэджвае заражэнне жывёл бактэрыямі і іншымі небяспечнымі арганізмамі.

І хаця даследаванні накіраваны на вывучэнне абарончых сістэм нерухомага жывёльнага свету марскога дна, некаторыя з рэчываў магчыма будзе выкарыстоўваць і для аховы чалавека ад інфекцыйных хвароб.

## ВОЛАВА Ў МІЖЗОРКАВАЙ ПРАСТОРЫ?

У прасторы між зоркамі знойдзены часцінкі волава — элемента, які мае ў перыядычнай табліцы атамны нумар 50. Да гэтай пары самым цяжкім элементам, знойдзеным у міжзоркавай прасторы, лічыўся крыптон з атамным нумарам 36.

Атамы выяўляюць сваю прысутнасць у міжзоркавай прасторы, паглынаючы святло зорак, якія знаходзяцца ззаду іх. У 1904 годзе нямецкі астраном Іаханес Хартман упершыню паведаміў аб прысутнасці атамаў у міжзоркавай прасторы, знайшоўшы ў спектры зоркі Мінбака, адной з трох зорак «пояса Арыёна», лінію паглынання, звязаную з прысутнасцю кальцыя.

Лінія паглынання, звязаная з прысутнасцю газападобнага волава, была ўстаноўлена ў спектрах трох зорак групай астраномаў з абсерваторыі Чыкагскага універсітэта — пры правядзенні назіранняў з дапамогай касмічнага тэлескопа «Хаббл». «Міжзорнае» волава знойдзена таксама ў спектры яшчэ адной зоркі, атрыманым іншымі астраномамі.

## СОНЦА Ў ВУПРАЖЫ

У Інстытуце праблем марскіх тэхналогій (Далёкі Усход) ацэнены рэальныя магчымасці выкарыстання некаторых нетрадыцыйных крыніц энергіі на тэрыторыі Прыморскага краю... Найбольш рэальна стварэнне прыстасаванняў, якія пераўтвараюць сонечную энергію ў цеплавую энергію нізкага патэнцыялу. Тут распрацавана некалькі тыпаразмераў сонечных пласцінчытых усесезонных награвацеляў рознага прызначэння са сталі і алюмініевых сплаваў. Гранічная тэмпература награву — 80—90 градусаў, рабочая — 50—60 градусаў (і ў зімовы час).

**З РАБОЧАГА СТАЛА САЦЫЁЛАГА**

# Моладзь не цікавіцца палітыкай, выступае за рынак і спадзяецца толькі на сябе

У цяперашні час, калі меркаваць па выніках сацыялагічных даследаванняў, інтарэс моладзі да палітыкі адносна невялікі. Трэць апытаных адказалі, што яны ўвогуле не цікавяцца палітыкай. Яшчэ 47,7 працэнта лічаць, што праяўляюць да палітыкі зусім невялікі інтарэс. Больш 10 працэнтаў апытаных не адважыліся адказаць на гэта пытанне, і толькі 6,7 працэнта заявілі, што іх вельмі цікавіць палітыка. Як і ўсюды ў свеце, у нашай рэспубліцы мужчынскае насельніцтва больш цікавіцца палітыкай, чым жаночае. Працуючая моладзь таксама праяўляе большы інтарэс у параўнанні з навучальнай, аднак перавышэнне гэта не значнае. А вось адрозненняў у інтарэсе да палітыкі паміж сельскай і гарадской моладдзю практычна не назіраецца.

Аднак слабы інтарэс яшчэ не дае сапраўднай карціны ўцягнутасці моладзі ў палітычнае жыццё. Інтарэс да яго можа быць на ўзроўні цікаўнасці да палітычных скандалаў і плётак. Куды важней удзел моладзі ў палітычнай дзейнасці. Менавіта ў такой дзейнасці і рэалізуюцца яе палітычныя арыенціры. Узровень удзелу ў палітычным жыцці можа быць розным і вар'іраваць ад удзелу ў выбарах да актыўнай працы ў якасці лідэра той альбо іншай партыі.

Самай простай формай палітычнай актыўнасці з'яўляецца ўдзел у выбарах органаў прадстаўнічай улады. Мяркуючы па даных апытання, інтарэс маладых людзей да выбараў у цэлым невялікі. З агульнай колькасці апытаных збіраюцца прымаць удзел у выбарах Прэзідэнта Беларусі 31,4 працэнта, дэпутатаў Вярхоўнага Савета — 22,1 працэнта, дэпутатаў мясцовых Саветаў — 23,7 працэнта. Атрымліваецца, што з выбарамі Прэзідэнта выбаршчыкі звязваюць больш надзей, чым з выбарамі дэпутатаў ВС і мясцовых Саветаў. У гэтым можна ўбачыць перш за ўсё расчараванне ў дзейнасці Саветаў усіх узроўняў, якія, на думку многіх маладых выбаршчыкаў, паказалі сваю бездапаможнасць. Новая галіна ўлады — прэзідэнцкая — выклікае больш надзей на магчымы зрух да лепшага. Але ў цэлым карціна атрымліваецца маларадасная — ужо зараз чвэрць патэнцыяльных маладых выбаршчыкаў упэўнена, што не будуць удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, а трэць — дэпутатаў мясцовых Саветаў...

Амаль палова апытаных (42,9 працэнта) не цікавіцца і не ўдзельнічае ў палітычным жыцці. Крыху больш паловы цікавіцца, але не прымае ў ім удзел. І толькі каля 1,5 працэнта рэспандэнтаў у той ці іншай ступені займаюцца палітыкай (0,4 працэнта прысутнічаюць на масавых мерапрыемствах; 0,9 працэнта пастаянна ўдзельнічаюць у рабоце палітычных арганізацый; 0,1 працэнта з'яўляюцца актывістамі партый і рухаў).

Звернемся да меркаванняў моладзі аб неабходнасці розных грамадзянскіх і эканамічных свабод. Сцвярджэнне: «Без поўнай свабоды друку не можа быць нармальнага дэмакратычнага грамадства». Цалкам згодны з ім 38,3 працэнта апытаных, больш ці менш — 22,7 працэнта, не зусім згодны — каля 16 працэнтаў. Характэрна, што па ступені згоды з гэтым меркаваннем няма адрозненняў паміж гарадской і сельскай моладдзю. Затое прыглядаюцца досыць яўныя адрозненні паміж мужчынскай і жаночай часткаю рэспандэнтаў — калі сярод мужчын з гэтым сцвярджэннем цалкам згодны 46,7 працэнта апытаных, то сярод жанчын толькі 30,7 працэнта.

Наступнае меркаванне, якое тычыцца свабод, было сфармулявана наступным чынам — «людзям неабходна даваць максімальную свабоду дзеянняў» — 27,9 працэнта рэспандэнтаў цалкам пагаджаюцца з ім; 23,8 працэнта — у большай ці меншай ступені; 20,3 працэнта — не зусім згодны; 9,5 працэнта — абсалютна не згодны. Атрыманыя даныя паказваюць, што моладзь адмоўна ставіцца да спроб залішняй рэгламентацыі любой дзейнасці і разглядае свабоду дзеянняў як важную ўмову самарэалізацыі. Аднак свабода дзеянняў не атаясамліваецца цалкам са свабодай прадпрымальніцтва, да якой рэспандэнты адносяцца досыць крытычна (толькі 16,9 працэнта цалкам згодны са сцвярджэннем, што свабода прадпрымальніцтва з'яўляецца адзінай гарантыяй эканамічнага дабрабыту).

Найбольшую згоду моладзь праявіла з меркаваннем: «Пры вырашэнні палітычных праблем трэба ўлічваць інтарэсы ўсіх людзей, незалежна ад таго, з'яўляюцца яны прадстаўнікамі карэннай нацыі ці не». 47,8 працэнта апытаных цалкам пагадзіліся з ім. і толькі 5,5 працэнта выказаліся адмоўна.

«Кожны сам павінен клапаціцца аб сваім працаўладкаванні». З гэтым сцвярджэннем не пагадзіліся: цалкам — 12,6 працэнта, у некаторай ступені — 22,2 працэнта.

Падагульняючы вышэйсказанае, можна зазначыць, што рыначная ідэалогія і каштоўнасці, звязаныя з ёю, пранікаюць у свядомасць усё большай часткі моладзі. Але разам з тым, немалая частка моладзі хацела б захаваць рэгулюючы ўплыў дзяржавы на асобу і эканоміку. Можна зрабіць выснову, што цяперашняя моладзь арыентуецца на рыначнае грамадства сацыял-дэмакратычнага ўзору з моцнай рэгулюючай роллю дзяржавы.

**Ядзвіга ЛЕВЯРОЎСКАЯ,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута сацыялогіі.**

# ЦЭНТР І ПЕРЫФЕРЫЯ Ў НАВУЦЫ

**Палажэнне цэнтра ў навуцы вызначаецца манаполіяй навуковага ўплыву, якое можа разглядацца як сімвалічны капітал, заснаваны на прафесійнай кампетэнцыі і сацыяльнай уладзе. Навуковая эліта ў цэнтры манапольна ўстанаўлівае, якія адкрыцці або інавацыі прызнаваць дасягненнем чалавечых ведаў, а якія не, і, такім чынам, дае мэтавую арыентацыю даследаванням на перыферыі.**

**Перыферыйнае палажэнне краіны ў навуковай сферы вызначаецца некалькімі фактарамі: геапалітычнымі (аддаленасць ад развітых краін, малая тэрыторыя, невялікае насельніцтва, абмежаваны ўнутраны рынак), эканамічнымі (бедныя прыродныя рэсурсы, аграрны характар эканомікі, моцная залежнасць ад замежнага капіталу), сацыякультурнымі (неразвітая вышэйшая адукацыя, моўны бар'ер), навуковымі (неадэкватны выбар спецыялізацыі і прыярытэтаў даследаванняў, нізкі ўзровень падрыхтоўкі кадраў, слабае забеспячэнне навуковай дзейнасці).**

**На ролю навуковага лідэра ў бліжэйшыя гады яўна будзе прэтэндаваць Японія. Яна фактычна толькі зараз пачынае разгортваць уласныя фундаментальныя даследаванні. Дагэтуль яе асноўныя эканамічныя поспехі забяспечваліся за кошт умелага запазычання найноўшых тэхналогій, створаных у іншых краінах. Няма сумнення, хваля структурных змен у цэнтры дойдзе да ўсіх перыферыйных устаноў.**

**Асобыя цэнтр-перыферыйныя адносіны склаліся па лініі Усход — Захад. Аўтаркія, ідэалагізацыя навукі, адмаўленне ад рыначных адносін, слабае фінансавае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ў многім вызначылі перыферыйны статус СЭУ у навукова-тэхнічнай сферы. Спроба наладзіць «перыферыйны інтэрфейс» (навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва) не была ўдалай: палітычнае аб'яднанне тэхналагічна слабых краін не прывяло да новай якасці. Краіны СЭУ засталіся ў перыферыйнай зоне, адчуваючы ўсе недахопы канкурэнцыі паміж двума цэнтрамі — Захадам і СССР. Пасля распаду СЭУ цэнтрам прыцягнення для краін былога СЭУ стала ЕЭС, якая рэгулюе ўмовы, ступень, форму і хуткасць інтэграцыі ва Усходняй Еўропе.**

**Савецкая навука аж да 60-х гадоў развівалася экстэнсіўна: у рэспубліках і рэгіёнах ствараліся ўсё новыя навуковыя ўстановы — акадэмічныя, вну, галіновыя.**

**Аднак вычэрпванне рэсурсных магчымасцей экстэнсіўнай эканомікі не дазволіла рэалізаваць маштабныя планы развіцця навукі. Пачалася канкурэнцыя за дэфіцытныя рэсурсы, у выніку чаго рэзка ўзняўся статус сталічнай навукі.**

**Саюзныя рэспублікі, з аднаго боку, уваходзілі ў склад звышдзяржавы, якая знаходзілася ў ваенным і ідэалагічным супрацьстаянні з навакольным светам і таму вымушана была праводзіць, знаходзячыся ў ізаляцыі, незалежную навукова-тэхнічную палітыку. З другога боку, ва ўмовах жорсткай адміністрацыйна-каманднай сістэмы рэспублікі займалі перыферыйны стан у адносінах да цэнтра. Такім чынам, іх навукова-тэхнічнае развіццё было залежным у рамках незалежнага.**

**Канцэпцыя адзінай дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі, кіруемай з цэнтра, прывяла да таго, што рэспублікі фактычна не мелі ні ўласнай навуковай палітыкі, ні органаў, якія б забяспечвалі яе правядзенне. Аб ступені звышцэнтралізацыі кіравання навукай сведчыць, напрыклад, структура яе фінансавання. У 1988 г. з саюзнага бюджэту яна атрымлівала 89 працэнтаў сродкаў, з рэспубліканскіх — 11, з мясцовых — нічога. Пры гэтым асабліва залежала ад саюзнага бюджэту навука вялікіх рэспублік — Расіі, Казахстана, Беларусі.**

**Звышцэнтралізацыя палітычнай і эканамічнай улады ў цэнтры заканамерна прывяла да такой жа ці нават большай канцэнтрацыі ўлады ў навуцы. Яе інструментамі сталі не толькі адпаведны аддзел ЦК КПСС, але і шматлікія навуковыя камітэты, камісіі, саветы, часопісы. Навукова-тэхнічнае кіраўніцтва складалася перш за ўсё з жыхароў Масквы. Напрыклад, на апошняй нарадзе Дзяржкамітэта СССР па навуцы і тэхніцы 90 працэнтаў прысутных былі масквічы.**

**Навуцы краін СНД трэба будзе прайсці унікальны шлях па пераарыентацыі цэнтр-перыферыйных адносін з улікам сусветнай практыкі. Вопыт «трэцяга свету» паказаў, што толькі тыя дзяржавы здолелі пакінуць навуковую перыферыю, якія звязалі дасягненні сусветнай навукі і тэхнікі са спецыфікай нацыянальных мэт і сацыякультурнага асяроддзя. Простае запазычанне ў прамыслова развітых краін прэстыжных напрамкаў даследаванняў і структуры кіравання навукай прыводзіла толькі да неэфектыўных затрат, без задавальнення патрэб насельніцтва.**

**Пакуль што ў СНД пераважаюць цэнтрабежныя тэндэнцыі. Аднак не выключана, што адраджэнне навуковага патэнцыялу Расіі зробіць яе зноў прыцягальным цэнтрам для былых саюзных рэспублік.**

**(Друкуецца ў скарачэнні).**

**Генадзь НЕСВЕТАЙЛАЎ,**
**доктар сацыялагічных навук;**
**Ігар ШАРЫ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута сацыялогіі АНБ.**

# АБМЯРКОЎВАЕЦЦА ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ

**Як было абяцана (гл. № 12 «Навін»), звяртаемся зноў да тэмы інтэлектуальнай уласнасці, якой быў прысвечаны спецыяльны семінар БелІР і Аддзялення гуманітарных навук АНБ. Вось некалькі размоў на гэтую тэму, праведзеных мной да і пасля семінара, а таксама некалькі вытрымак з выступленняў на тым самым семінары, што адбыўся ў канцы сакавіка ў памяшканні Інстытута эканомікі АНБ.**

З размовы з Самвелам КУРАГЯНАМ, доктарам эканамічных навук, намеснікам дырэктара акцыянернай кампаніі «РАМАС»:

— *На вашу думку, ці мае інтэлектуальная ўласнасць грашовае выражэнне?*

— Духоўныя прадукты маюць каштоўнасць, а не вартасць. Затрачаная праца, зрасходаваныя матэрыялы, напрыклад, у жывапіснай карціне,— мізэрныя ў параўнанні з яе каштоўнасцю. А каштоўнасць вызначаецца якасцю затрачанай духоўнай працы. Час тут не мае вялікага значэння. Мастак у парыве натхнення можа на працягу пяці хвілін стварыць шэдэўр.

— *А ці ўяўляеце вы, што пайшлі ў ход нейкія сертыфікаты на інтэлектуальную ўласнасць?*

— Так. І яны патрэбны перш за ўсё вучоным. Бо іх праца ў канечным выніку стварае велізарныя матэрыяльныя каштоўнасці.

З Міхасём ПАЛЯКОВЫМ, кандыдатам фізіка-матэматычных навук, замежным членам АН у Нью-Йорку:

— *Ці ёсць сэнс займацца прыватызацыяй інтэлектуальнай уласнасці?*

— Гэтае пытанне даўно вырашанае. Бо ў каменным веку было ўжо аўтарскае права — на песню, напрыклад. А сертыфікаты — яны таксама ёсць, толькі інакш называюцца: дыплом Кембрыджскага універсітэта або дыплом Беларускай палітэхнічнай акадэміі.

— *Аднак ёсць жа інтэлектуальныя прадукты, якія не прадугледжаны ні аўтарскім правам, ні правам на прамысловую ўласнасць. І перш за ўсё ідэі, а таксама праекты, навуковыя распрацоўкі...*

— Калі ў нас будзе банк ідэй і патрэб, не як рубрыка ў газеце, а як рэспубліканскі інфармацыйны банк з міжнароднымі сувязямі, тады ніякія дакументы на прыватызацыю не спатрэбяцца. Заключаеш дагавор ці кантракт, і ўсё.

Дарэчы, нядаўна ў Расіі, прыняты закон аб перадачы ноу-хау. Такім чынам, ва ўладальнікаў інтэлектуальнай уласнасці з'явілася ўзаконенае права ёй распараджацца. Гэта важны прэцэдэнт.

Са Станіславам РАМАНАВЫМ, кандыдатам біялагічных навук, загадчыкам аддзела Акадэміі аграрных навук:

— *Ці патрэбны нам інтэлектуальныя ваўчэры?*

— Пытанне трэба падзяліць на дзве часткі: калі рынак ужо ёсць і калі яшчэ няма. У першым выпадку гаварыць аб інтэлектуальных ваўчэрах няма патрэбы. Інтэлектуальная ўласнасць належыць таму, хто яе стварыў.

А калі рынку яшчэ няма (як цяпер), то інтэлектуальная ўласнасць абязлічана. Як вычляніць з калектыўнай працы тое, што належыць кожнаму? Гэта немагчыма.

З Валянцінай ЛЯОНЧЫКАВАЙ, кандыдатам эканамічных навук, дырэктарам таварыства з абмежаванай адказнасцю «Навуковец»:

— *Ці дапамогуць нам нейкія паперы пры выкарыстанні прадуктаў інтэлектуальнай працы, пры ўкараненні іх у вытворчасць, пры продажы іх на сусветным рынку?*

— Калі вы маеце на ўвазе інтэлектуальныя ваўчэры, дык я ўвогуле да ўсякіх ваўчэраў стаўлюся адмоўна.

— *Чаму так?*

— Таму, што яны ўсе, якія б ні былі, спрыяюць інфляцыйным працэсам. Аднак у тых ваўчэрах, што мы вось-вось атрымаем, ацэнка нашай інтэлектуальнай уласнасці ўжо зроблена. І навукоўцаў, і інжынераў. Хай сабе па фармальных прыкметах (стаж), але ўсё-такі.

З Уільямам КЭЛІ, доктарам навук (ЗША), які некалькі месяцаў чытаў лекцыі па эканоміцы ў БДУ:

— *Ці лічыце вы, што беларускія вучоныя маглі б быць выкарыстаны са значна большым эфектам у міжнародным інтэлектуальным бізнесе?*

— Так. У параўнанні са светам як цэлым, Беларусь мае вельмі адукаванае насельніцтва, дастатковую колькасць вопыту ў навуковых даследаваннях і дзесяцігоддзі вопыту ў вытворчасці найскладанейшых прадуктаў (машынных інструментаў, трактароў, грузавых аўтамабіляў, тэлевізараў).

З выступлення на семінары Віктара МАРТЫНАВА, доктара філалагічных навук, галоўнага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства:

— Свайго роду інтэлектуальным ваўчэрам магла б быць анкета, запоўненая для выдання «Хто ёсць хто ў беларускай навуцы». Яна б падводзіла вынік працы вучонага на дату публікацыі выдання. Тут для ацэнкі слушнасці адказаў можна было б скарыстацца амерыканскім вопытам. Яны выбіраюць некалькі «аўтарытэтаў», якім даецца права назваць сваіх «аўтарытэтаў», і гэтак далей.

З выступлення на семінары Генадзя НЕСВЕТАЙЛАВА, доктара сацыялагічных навук, загадчыка аддзела сацыялогіі навукі Інстытута сацыялогіі:

— Ацэнка новага, атэстацыя, ацэнка інтэлектуальнай уласнасці, прэміраванне — усё ўпіраецца ў праблему: «А суддзі хто?» Метад «снежнага камяка», аб якім гаварыў В. У. Мартынаў,— выдатны метад, але не ў нас. Бо наша навуковая супольнасць не таго памеру, што амерыканская. І метад «задыхнецца» ужо на другім кроку.

Як можна ўбачыць, роскід думак па ўсіх аспектах інтэлектуальнай уласнасці вельмі значны, і да «моманту ісціны» яшчэ далёка. Запрашаем чытачоў прыняць удзел у дыскусіі.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

# Звярніце ўвагу

У «Акадэмкнізе» (і ў іншых кнігарнях горада) з'явіліся новыя кнігі, якія павінны прыцягнуць увагу шырокага кола чытачоў. Вось некаторыя з іх:

*Т. П. Кароткая. «В поисках новой рациональности». (Мінск, «Навука і тэхніка», 1994).* Гэтае акадэмічнае выданне падрыхтавана супрацоўніцай Інстытута філасофіі і права АНБ Т. Кароткай пад рэдакцыяй доктара філасофскіх навук Ю. А. Гусева. Аўтар разглядае рэлігійную філасофію Расіі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, як цэласную з'яву. На аснове аналізу ранніх прац Бярдзяева, Булгакава, Лоскага, братоў Трубяцкіх, Франка, Фларэнскага раскрываецца пошук новай рацыянальнасці на шляхах пабудовы рэлігійна-метафізічнага светапогляду.

*«Христианство и другие религии мира»* (Мінск, «Тэст», 1993). Зборнік прац польскіх даследчыкаў прысвечан аналізу хрысціянства і шэрагу іншых вераванняў свету, пытанням хрысціянскай маралі і царквы, супастаўлення рэлігійных сістэм Усхода і Захада. Аўтары прыадчыняюць дзверы да самых патаемных пытанняў, звязаных з прызначэннем чалавека ў гэтым свеце.

*У. Е. Снапкоўскі. «Путь Беларуси в ООН. 1944—1945 гг.» (Мінск, «Навука і тэхніка», 1994).* Аўтар навуковага выдання, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ, доктар гістарычных навук Снапкоўскі даследуе праблему першапачатковага членства саюзных рэспублік СССР (БССР, УССР) у ААН, царністы шлях Беларусі ў гэтую арганізацыю. Напісана кніга на аснове дакументаў знешняй палітыкі СССР, ЗША, Вялікабрытаніі, іншых краін, многія з якіх ужываюцца ўпершыню.

*Г. І. Лардэйрэ. «Канстытуцыя і сістэма выбараў: што кажа гістарычны вопыт» (Мінск, Фонд Сораса — Беларусь, 1994).* Праца Прэзідэнта Інстытута дэмакратыі (Францыя) падагульняе даследаванні інстытута ў галіне канстытуцый і законаў аб выбарах. Аўтар засяроджвае ўвагу на такіх пытаннях, як прэзідэнцкі і парламенцкі рэжымы, наступствы мажарытарнай і прапарцыянальнай сістэм выбараў, куды вядзе той ці іншы парадак выбараў і інш.

*Пятро Васючэнка. «Драматургічная спадчына Янкі Купалы. Вопыт сучаснага прачытання» (Мінск, «Навука і тэхніка», 1994).* Кніга старшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, кандыдата філалагічных навук П. Васючэнкі змяшчае сучасны погляд на драматычныя творы вядомейшага беларускага літаратара, некаторыя з якіх раней увогуле не друкаваліся.

Агляд кніжных навінак падрыхтаваў
Алесь ЮРЫН.



*Вясна ў горадзе. Фота М. Будчаніна.*

# КАЦЮША

Зусім нядаўна мы развіталіся з Кацярынай Іванаўнай Кірліган, вельмі добрым чалавекам, цудоўнай жанчынай, верным сябрам. Многія ведалі яе і як жонку Барыса Іванавіча Сцяпанава, буйнога вучонага, дырэктара Інстытута фізікі АНБ, які носіць цяпер яго імя.

У апошні час сталі больш гаварыць пра ролю жанчыны ў грамадстве, у сям'і. Гэты год нават аб'яўлены ААН годам сям'і. Але трэба сказаць, што ва ўсе часы былі сапраўдныя сем'і, клапатлівыя жонкі і добрыя маці. Аб адной з іх хочацца расказаць.

Кацярына Іванаўна нарадзілася 12 жніўня 1915 года ў Петраградзе. Яе бацька быў паштовым служачым, маці — настаўніцай. Амаль адразу пасля нараджэння дачкі ўся сям'я пераехала ў Данбас. Пасля сямігодкі Каця Кірліган працавала на шкляным заводзе.



Скончыўшы вячэрнюю школу для дарослых, яна паехала вучыцца ў Ленінград. У 1940—1946 г. працавала ў Дзяржаўным аптычным інстытуце. Усю вайну Кацярына Іванаўна знаходзілася ў Ленінградзе, працавала на абарону краіны. Яна шліфавала і паліравала шкло для акуляраў лётчыкам, дзяжурыла ў медпункце, а калі бамбілі горад — на дахах і паддашках будынка інстытута, капала процітанкавыя рвы, расшуквала сваякоў франтавікоў, хавала загінуўшых і памерлых ад голаду. Вясной 1943 года, у самы цяжкі перыяд барацьбы з распаўсюджваннем інфекцый, удзельнічала ў санітарных работах па ачыстцы горада. У снежні 1942 года ў ліку першых Кацярына Іванаўна была ўзнагароджана медалём «За абарону Ленінграда», а ў чэрвені 1945 — медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне», пазней — юбілейнымі медалямі ў гонар Перамогі.

Лёс падарыў Кацярыне Іванаўне каханне — вялікае, сапраўднае, узаемнае — на ўсё жыццё. Яны сустрэліся ў цяжкія дні лета 1941 года. 31 ліпеня Барыс пісаў аднаму з сяброў: «Я сустрэў, пазнаёміўся з Кацей падчас усеагульнай разгубленасці, бесталкоўшчыны, неразбярыхі. Як выгадна адрозніваецца яна ад многіх іншых сваёю вытрыманасцю, упэўненасцю, працаздольнасцю, сваім жаданнем быць карыснай і здольнасцюператварыць гэта ў жыццё і ў дробязях, і ў самых цяжкіх справах... Яна цудоўная дзяўчына, з ёю па-сапраўднаму добра і радасна! Мне хочацца бачыць яе кожную хвіліну, гаварыць з ёю, глядзець на яе вясёлы, бодры, упэўнены твар. Каця — гэта жыццё, энергія, рух...»

Хутка пасля знаёмства Барыс пайшоў на фронт. Усе гады разлукі яны пісалі адзін аднаму, а ў кастрычніку 1945 года, калі сустрэліся, ажаніліся. У 1952 г. Кацярына Іванаўна, маючы дваіх дзяцей, скончыла Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі. А ў наступным годзе сям'я пераехала ў Мінск.

Шлі гады, раслі дзеці, напружаная праца аднімала ў Барыса Іванавіча шмат часу і сіл, але ў гэтай сям'і заўсёды панавалі мір, згода, узаемаразуменне, тут многа чыталі, хадзілі ў тэатры, падарожнічалі, знаёмілі дзяцей з навакольным светам... Не дзіўна, што праз многа гадоў Барыс Іванавіч прысвяціў жонцы наступныя радкі:

Как хорошо нам было рядом
Тогда, давно, под Ленинградом,
Поверь, родимая, поверь —
С тобой прекрасно и теперь.

Будучы ад прыроды умным, таленавітым чалавекам, атрымаўшы спецыяльнасць фізіка, Кацярына Іванаўна ахвяравала сваёй навуковай кар'ерай. Яна здолела стаць не толькі жонкай, але і надзейным сябрам, паплечніцай мужа. Кацярына Іванаўна — першы апанент і рэцэнзент, рэдактар і карэктар, машыністка і чарцёжніца, сястра міласэрнасці і шафёр... Муж разумеў гэта і цаніў:

Все жизненные тяготы
Взвалила на себя,
Меня любя.

Кацярына Іванаўна і Барыс Іванавіч. Іх саюз. Ці не тут ключ да разумення гэтых яркіх асоб, адна з галоўных прычын іх творчых поспехаў? Каханне, шчырасць, давер, самааддананасць, здольнасць у любы момант зрабіць адзін аднаму ўсё магчымае і нават немагчымае. Як многа паспеў зрабіць Барыс Іванавіч у навуцы, але як ацаніць уклад Кацярыны Іванаўны ў зробленае ім?! Як вымераць уплыў іх прыстойнасці, душэўнай чысціні, дабрыні на гісторыю і традыцыі інстытута, на ўсё навакольнае? Нават цяжкім хваробам было не пад сілу зламаць іх. У многім намаганнямі Кацярыны Іванаўны да апошняй хвіліны Барыс Іванавіч працаваў, а калі яго не стала, яна зрабіла ўсё для таго, каб напісаныя ім 4 тамы «Уводзін у сучасную оптыку» былі апублікаваны. Гэта была вялікая, карпатлівая праца па навуковаму рэдагаванню, падрыхтоўцы манаграфіі да друку.

Кацярына Іванаўна... Прамяністыя вочы, спакойны голас, добрая ўсмешка, умение выслухаць і зразумець субяседніка, інтэлігентнасць, талент гаварыць з самымі рознымі людзьмі, пачуццё гумару... Такой мы памятаем яе. Яна здолела стварыць важнейшую каштоўнасць у жыцці кожнага чалавека — ДОМ. Адкрыты, гасцінны, цёплы, у які заўсёды хочацца прыйсці.

Барыс Іванавіч на пасяджэнні Акадэміі навук, прысвечаным яго 70-годдзю, сказаў: «Цудоўна, прама на патрэбы фронту працаваў Ленінградскі філіял Дзяржаўнага аптычнага інстытута. І ў ім усе 4 гады працавала і ваявала, ваявала і працавала мая дарагая супруга — Кацярына Іванаўна. І гады, і зараз, вось ужо 42 гады я дзіўлюся яе мужнасці, стойкасці, дабрыні, сціпласці, любові да людзей, жаданню дапамагчы тым, каму гэтая дапамога патрэбна. Калі я жывы і працаздольны, то толькі дзякуючы ёй, маёй памочніцы, маёй Кацюшы. Вялікі ёй дзякуй». Дзякуй ёй і ад нас, усіх, хто ведаў яе, за тое, што была ў нашым жыцці, дарыла нам святло і цяпло Каця, Кацюша, Кацярына Іванаўна.

Людміла ЧУМАКОВА

# Шукайце золата на звалках

Спецыялісты АТ «Механобр-Тэхнаген» у Пецярбурзе стварылі унікальнае абсталяванне для атрымання каштоўных металаў з адходаў электронікі. Ліквідуемыя ракеты, тарпеды, іншыя віды баявой амуніцыі можна разглядаць як багацейшую рэсурсную базу для атрымання золата, плаціны, нікеля, медзі і інш. Спецыялісты сцвярджаюць, што падобная сыравіна багацейшая за прыродную на некалькі парадкаў і яе выкарыстанне абяцае вялікі выйгрыш народнай гаспадарцы.

На ўстаноўцы, створанай пецярбургскімі спецыялістамі, удаецца здабываць 99,7 працэнта каштоўных прадуктаў, якія ўтрымліваюцца ў адходах. Ліцэнзію на абсталяванне набылі вядучыя фірмы ЗША, Францыі, Японіі, Швецыі.

Акрамя ўстановак па перапрацоўцы другаснай сыравіны, якія ўжо выдаюць таварнае золата, спецыялісты «Механобра» сканструявалі і перасоўныя мікрафабрыкі, здольныя працаваць на радовішчах і адвалах. Прадукцыйнасць працы агрэгатаў па атрыманню каштоўных металаў з руд ад 0,5 да 20 тон перапрацоўваемай сыравіны ў гадзіну. Тэрмін акупнасці абсталявання ўсяго 2 месяцы. Кошт комплексу ў сённяшніх цэнах складае каля 100 млн. рублёў.

А. Дружыніна,
«ДМ».

# Выйшлі на Эльдарада

*У Інстытуце горнай справы (Далёкі Усход) распрацавана палістадыйная тэхналогія эфектыўнай перапрацоўкі золатаўтрымліваючых пяскоў. Прамысловыя выпрабаванні паказалі магчымасць павышэння ўзроўню здабывання мелкіх часцінак золата на 25—40 працэнтаў.*

ВАКАНСІІ

**Институт проблем использования природных ресурсов и экологии АН Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантной должности заведующего лабораторией химии и химической технологии твердого топлива (доктор или кандидат наук).**

**Срок конкурса — 1 месяц со дня опубликования объявления.**

**Обращаться по адресу: 220114, г. Минск, Староборисовский тракт, 10. Тел. 64-23-20.**

♦♦♦

Институт общей и неорганической химии АНБ объявляет конкурс на замещение вакантных должностей старшего научного сотрудника по специальности «коллоидная и мембранная химия» (2) и «физическая химия» (1).

Срок подачи документов — 2 недели со дня опубликования.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»
Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 20.04.94 г.
Зак. 1026
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.